Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

Вільня, 23-га лютага 1934 г.

№ 4 (29).

Год 2-гі

# РОДНЫ КРАЙ

ОРГАН ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЕ АСЬВЕТЫ

выходзіць двойчы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Мэтрополітальны пляц 3 кв. 12.
Прыймо інтэрэсантаў:
у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г.
у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Падпіска з дастаўкай поштай:
За год 3 зл. 50 гр.; за паўгоду—2 зл.
за 3 месяцы — 1 зл. 20 гр.;
за 1 месяц — 40 грош.

Цана асобнага нумару 20 гр.

## „Мышалоўка“.

Арышты беларускіх дзеячоў у БССР выкрылі ў поўнай меры, што камуністычная партыя ў адносінах да беларускага вызвольна-адраджэнскага руху—гэта ёсьць папросту „мышалоўка“. Партыя, публічна заяўляючы аб сваім прызнаньні права ўсіх народаў на нацыянальна-дзяржаўную самастойнасьць — „вплоть до отделения от СССР“, на дзеле праводзіць палітыку „единой и неделимой“ царскай Расеі, старающыся зьніштожыць тыя народы, каторыя Масква здаўна абвясьціла галінамі „русскага народа“: беларусаў і украінцаў.

Але і беларусы, і украінцы ня хочуць зьлівацца з маскоўцамі ў едином „русском море“, ня хочуць нацыянальна паміраць, а, наадварот, на дзеле даказваюць кожын дзень, што яны—жывыя народы, якія і здольны да самастойнага існаваньня, і хочуць быць самі сабой, хочуць быць гаспадарамі на сваёй зямлі. І беларусы, і украінцы, бяз розьніцы партыяў і кірункаў, даюць адпор дэнацыяналізацыі, незалежна ад таго, хто імкнецца іх дэнацыяналізаваць. — І вось камуністычная партыя—па мысьлі Сталіна — павяла вельмі спрытную (пры ўсей сваёй падласьці!) тактыку.

Як ведама, у Заходняй Беларусі, на вялікі жаль, шмат ёсьць яшчэ балячак, якія выклікаюць сярод беларускага грамадзянства нездаваленьне. На гэтым Сталін і пабудаваў свой правакатарскі плян: абвясьціў, што Саветы хочуць дапамагчы беларусам у іх „вызвольна-адраджэнскай барацьбе“, — і камуністы заўсёды стараліся гэтую барацьбу ўсьцяж распаліваць, а тых, хто за нязгодныя з польскімі законамі паступкі пападаў у польскія вастрогі, абвяшчалі „нацыянальнымі гэроямі“ і выменівалі іх з польскім урадам на вязьняў-палякоў у Саветах. Адначасна адбывалася перацягваньне ў БССР тых жывейшых і мацнейшых адзінак, якія асабліва выяўлялі сваю грамадзкую і нацыянальную актыўнасьць у Заходняй Беларусі. Многа нашых сіл было гэтак адарвана ад беларускае працы пад Польшчай, што, ясна-ж, шмат аслабіла тут беларускі нацыянальны рух.

А гэтага-ж і трэба было Саветам: сабраўшы ў межах БССР найбольш чынныя беларускія элементы, камуністычная партыя вельмі хутка расправілася з імі, „унярухоміўшы“ іх у лёхах ГПУ, на Салаўкох, у канцэнтрацыйных лягерах... Лічба грамадзка-актыўных беларусаў, пераважна—інтэлігентаў, вырваных з жыцьця і пахаваных на доўгія гады за вастрожнымі кратамі ў БССР, дасягае ўжо 500 душ...

Але з кожным годам лічба нацыянальна сьведамых і грамадзка-актыўных беларусаў павялічваецца: гэта-ж нарастае новае пакаленьне—на зьмену старому. І камуністычная „мышалоўка“ ўсё больш энэргічна працуе сярод яго ў Заходняй Беларусі. Правакуюцца беларускія гімназісты і студэнты, каб скампрамітаваць іх палітычна і ня даць скончыць навуку, ня даць стацца нацыянальна-актыўнымі інтэлігентамі. З тэй-жа правакацыйнай мэтай твораца „ком'ячэйкі“ ў беларускіх культурна-прасьветных арганізацыях. Урэшце — закладаюцца легальныя часопісы, якія прываблiваюць народ сваім крайнім соцыяльным радыкалізмам, — і вось усе тыя звычайныя, шэрыя людзі з беларускае вёскі, якія пачуваюць сябе соцыяльна пакрыўджанымі, хоць з камунізмам ня маюць нічога супольнага, адгукаюцца на заклікі гэных правакатарскіх часопісаў, а тыя—публікуюць іх імёны і адрасы, як „сваіх“ людзей, ды гэтак падстаўляюць іх пад удары і перасьледаваньне з боку адміністрацыі, якой аднаго гэтага хапае, каб разглядаць іх, як „камуністаў“... А праз нейкі час, калі ахвяры правакацыі апынуцца на „Лукішках“, дык і іх маскоўскія „дабрадзеі“ будуць выменіваць, як выменівалі Дварчаніных, Валошыных і інш., каб пасьля... абвясьціць „шпіонамі“, „правакатарамі“ і—пасадзіць у савецкія вастрогі.

Так працуе камуністычная „мышалоўка“, каб зьніштажаць жывыя беларускія сілы. Так рэалізуецца запраўды-ж нячувана подлы плян кампартыі.

Грамадзяне! Сьцеражыцеся „мышалоўкі“: яна нясе нам нацыянальную сьмерць і вечную няволю ў чужынцаў!

# Менскія „невозвращенцы“ у Лёндане.

З Савецкае Беларусі атрымалі навуковую камандзіроўку ў Лёндан 5 маладых студэнтаў-беларусаў. Ясна, што выбранцы гэтыя былі закваліфікаваны, як 100-працэнтныя камуністы самага пралетарскага паходжаньня дый самай чыстай „сталінаўскай лініі“. Аднак-жа, калі і да Лёндану дайшлі весткі аб апошняй нязвычайна агіднай навет і для маскоўска-менскіх катаў расправе з „шляхотна выменянымі“ ці „выманенымі“ савецкім урадам з Польшчы беларусамі, дык весткі гэтыя ня толькі здолелі разбудзіць у маладых сэрцах 5 менскіх студэнтаў, 100-працэнтных пралетараў сталінскае маркі 1933 г., пачуцьцё найвышэйшага абурэньня, але, што для нас яшчэ цікаўней: выцягнулі на сьвет Божы глыбака забітае страхам і маной пачуцьцё нацыянальнае годнасьці, ці—тую-ж самую, так страшэнна „вычышчаную“ ў Усходняй Беларусі „нац-дэмаўшчыну“...

Паводле газэтных вестак, усе 5 студэнтаў падзякавалі маскоўскім дабрадзеям за іх стыпэнды, а заадно — і за... савецкае „грамадзянства“ (можа лепш: падданства!). Зараз-жа пасьля гэтага, злучыўшыся з пражываючымі ў Лёндане іншымі інтэлігентамі і работнікамі-беларусамі, яны залажылі Саюз Беларусаў-Эмігрантаў—з ярка выражаным нацыянальным і процi-савецкім характарам.

Новая беларуская пляцоўка ў Лёндане пачала сваю дзеяльнасьць радам рэфэратаў і публічных лекцыяў — аб тым страшэнным душэньні нацыянальнага жыцьця і фізычным зьніштажаньні беларускае інтэлігенцыі, якое распачата ў Савецкай Беларусі некалькі гадоў назад, а ў нашыя дні дайшло да нябывалага завастрэньня...

Ці дасягаюць сваей мэты маскоўска-менскія каты,—аб гэтым найлепш кажа прыклад... гэтых 5 беларускіх студэнтаў з Менску!

# Да польска-нямецкага пакту.

У папярэднім нумары — з прычыны нястачы мейсца — мы абмежыліся толькі кароткай вестачкай аб тым, што Польшчай і Нямеччынай падпісаны пакт аб узаемным ненападаньні і гэтак забясьпечаньні абедзьвюх дзяржаваў ад усьцяж вісеўшае над імі пагрозы вайны. Ці гэты „папяровы мір“ будзе трывалы,—судзіць не бярэмся: калі-б усе на сьвеце міравыя ўмовы былі трывалыя, дык пэўне-ж ніякіх войнаў ня бывала-б... Але, не загадваючы далёка ў будучыню, хочам тут адзначыць тое, што на бліжэйшы час пакт дае абедзьвюм старонам значныя карысьці.

Нямеччыне ён дае вельмі важкі доказ міралюбства, асабліва важны для Гітлера цяпер, калі ён дамагаецца для Нямеччыны раўнапраўя ў збраеньнях з яе суседзямі. Дыплёматычны крок, ці манэўр, Гітлера адразу выбівае з рук Францыі яе козыр: „неабходнасьць бараніць яе саюзьніцу Польшчу ад нямецкага нападу“, што Францыя ўсьцяж выстаўляла дагэтуль, выступаючы процi дамаганьняў дазбраеньня Нямеччыны, або зьмяншэньня аружнае сілы Францыі. Адначасна беспасярэднае паразуменьне Гітлера з галоўнай ваеннай саюзьніцай Францыі б'е па самай сыстэме ваенных саюзаў, якой Францыя падмуравала сваю дыктатуру ў Эўропе. Гэтым у свой чарод аслабляецца галоўны абаронца ненавіснага немцам Вэрсальскага трактату — Францыя.

Для Польшчы паразуменьне з Нямеччынай карысна толькі пасьля яе паразуменьня з СССР. Калі-б паразуменьня з СССР ня было, тады беспасярэдні пакт з Нямеччынай толькі-б аслабіў вонкавае палажэньне Польшчы, адрываючы яе ад Францыі і вырываючы наагул з ланцуга ваенных саюзаў, што забясьпечываюць граніцы Польшчы. Але, абапершыся ўжо аб СССР, яна ня толькі нічога ня траціць ад паразуменьня з Нямеччынай, але ад пэўнага „надрыву“ свайго саюзу з Францыяй якраз значна выйгрывае на самастойнасьці і незалежнасьці сваей замежнай палітыкі наагул.

Трэба адзначыць, што для нас, беларусаў, як і для украінцаў, польска-нямецкае паразуменьне мае (ці можа мець) спэцыяльна важнае значэньне.

Калі-б Польшча абмежылася паразуменьнем толькі з Масквой, шукаючы і знайшоўшы там апору процi Нямеччыны, дык за гэтую дадатковую гарантыю сваіх граніцаў палякам прышлося-б заплаціць чырвонай Маскве залішне ўжо вялікай „прыязьняй“, ня менш пагражаючай незалежнасьці яе палітыкі, як дасюлешняя прыязьнь з Францыяй... Ня будзем гадаць, колькі-б каштавала Польшчы гэтая яе прыязьнь з Чырвонай Масквой у далейшай будучыні. Але, што кошты гэтае прыязьні ў бліжэйшы час заплацілі-б сваімі галовамі ўсе славянскія меншасьці Польшчы, а ў першую чаргу — мы, беларусы, у гэтым ня можа быць ніякага сумліву. І без таго ня лішне салодка жывецца тут беларусам, — але які-бы „рай на зямлі“ для іх наладзіла поўная ўзгодненасьць палітыкі дзьвюх шчыра запрыязьніўшыхся суседак, дыктаваная з Масквы,—лёгка можам сабе прадставіць, асабліва-ж — пасьля апошніх вестак з Менску... Цяпер-жа гарантыйны пакт з Нямеччынай у значнай меры вызваліў польскую палітыку з пад маскоўскага „прыязнага націску“, даўшы ёй больш магчымасьці карыстацца ў вырашэньні сваёй меншасьцёвай проблемы ўласным палітычным розумам і ўласным дзяржаўным сумленьнем. Як выкарыстае Польшча гэтыя новыя магчымасьці, адкрыўшыяся для яе палітычнай самастойнасьці і незалежнасьці на міжнародавым полі,—гэта пакажа будучыня.

**Перачытаўшы газэту — перадай другому.**

# Крывавая правакацыя.

Як ведама, зараз жа пасьля вайны першы ўстаноўчы сойм Аўстрыі выявіў выразна волю ўсяго народу — злучыць дзяржаўна і гаспадарча недарэчны чыста нямецкі астатак старое аўстрыйскае дзяржавы, разьбітае пераможцамі, з роднай нацыянальна Нямеччынай. Але —да такога ўсіленьня пабітае Нямеччыны, пагражаючага „эўрапэйскай раўнавазе“, пераможцы дапусьціць ня хочуць.

Пакуль у Нямеччыне былі разумныя кіраўнікі, справа злучэньня з ёй Аўстрыі сама сабой падгатаўлялася павольна і паступова, ня гледзячы на ўсе забароны і пагрозы з боку пераможцаў. Але-ж тое, што Штрэзэман і Брюнінг рабілі розумам і працай, тое Гітлер, захапіўшы ўладу, пачаў рабіць гвалтам, тэрорам і гэтым выклікаў зьмену настрояў сярод насяленьня Аўстрыі, не хацеўшага паддацца гітлераўскай Нямеччыне. І аўстрыйскі ўрад сам ужо пачаў шукаць замежных „апякуноў“—дзеля абароны ад Нямеччыны.

Пакуль яшчэ Аўстрыяй бліжэй апекаваліся Англія і Францыя, аўстрыйскія ўрады захоўвалі ўнутры краю пэўную меру дэмакратычнага ладу і дзяржаўнага парадку. Але ў апошні час у ролі бліжэйшага „апякуна-дабрадзея“ Аўстрыі выступіла фашыстаўская Італія. І Мусоліні зразу-ж пачаў выкарыстываць сваё палажэньне „ахоўцы незалежнасьці Аўстрыі“, каб падгатаваць у ёй дзікую, агідную крывавую расправу з магутнай тамака соцыял-дэмакратычнай партыяй. З гэтай мэтай Мусоліні шле ў Вену свайго „інструктара“, міністра Сувіча. І зараз-жа пасьля яго візыты пачынаецца ў Аўстрыі зэпраўдная хатняя вайна.

Ці-ж можна схаваць сэкрэт рыхтаванае ўрадам ваеннае аблавы на соцыял-дэмакратычную партыю, якая сама зьяўляецца па сваей сіле і ўплыву як быццам гаспадарствам у гаспадарстве? Ясна, што пляны ўраду хутка выкрыліся, і гэтая магутная партыя шпарка падрыхтавалася да ваеннай абароны.

І запраўды: пачаўся адкрыты ваенны паход аўстрыяцкай арміі проці... хіба-ж найбольш мірных, культурных, гаспадарча і дзяржаўна творчых элемэнтаў нацыі: яе арганізаванае работніцкае арміі. Тое, што Гітлер зрабіў у Нямеччыне блізу бяскроўна, тое Дольфус—з парады Мусоліні — зрабіў у Аўстрыі, заліўшы ўвесь край крывёй найлепшых яго грамадзян. Бо, калі нямецкая соцыял-дэмакратыя з ганебнай пасыўнасьцю аддалася на волю і ласку Гітлера, як пераможцы на выбарах, дык аўстрыйская соцыял-дэмакратыя—пад пагрозай крывавага гвалту—пастанавіла лепш згінуць шляхотна ў адкрытым баі за права і волю, чым пацчыніцца гвалтаўніком.

І вось — ужо больш як два тыдні на прасторы ўсяго краю, асабліва ў сталіцы яго Вене дый наагул у прамысловых раёнах, ідзе вайна арміі з работнікамі. Армія з гарматаў, не шкадуючы дасканалых, пабудаваных соцыялістычнымі самаўрадамі, гмахаў работніцкіх „гарадкоў“, не ашчаджаючы ні жанчын, ні дзяцей, губіць тысячамі ненавісных Мусоліні (і Гітлеру...) „марксістаў“, маючы надзею разам з імі забіць на сьмерць і самую ідэю панаваньня вольнае працы ў дзяржаве...

Навет афіцыяльныя справаздачы паказваюць тысячы забітых і раненых. Узапраўднасьці трэба лічыць даесяткамі гэтыя тысячы...

---

Праўда, — арганізаваныя соцыял-дэмакратычнай партыяй работнікі аказаліся азброенымі да зубоў. Але гарматы рэгулярнае арміі, зразумела, здолелі зламаць іх гэраічны адпор.

Але варта запытацца, ці гэтая вайна і перамога дасягне тэй галоўнай мэты, якой падыктаваны быў наступ на работнікаў: ці зьніштажэньне „марксістаў“ у Аўстрыі забясьпечыць яе незалежнасьць, перашкодзіць яе злучэньню з Нямеччынай, ці хоць-бы захвату знутра гітлераўскім нацыянал-соцыялізмам?

І вось тутака пачынаецца ўжо кара для ганебных, а насамперш дурных выканаўцаў мусоліняўскага „заказу“. Аўстрыяцкая соцыял-дэмакратыя была, як ведама, найбольш рашучым, непрымірымым і сільным праціўнікам гітлерызму ў Аўстрыі. Фізычна зьніштожыўшы яе гарматамі, замест таго, каб абаперціся на яе ў сваей барацьбе проці гітлерызму, Дольфус фактычна ўжо аддаў сябе ў рукі Гітлера. Недарэчная думка Дольфуса: стварыць у Аўстрыі фашызм італьянскага тыпу — дзеля барацьбы з фашызмам тыпу нямецкага (гітлерызмам),—падобна да спробы тушыць пажар... газай! Дольфус толькі аблягчыў Гітлеру захват Аўстрыі знутра.

---

# Гаспадарчы аддзел.

## У якіх умовах дойная жывёла дае найболей малака.

Умовы, пры каторых каровы даюць найболей малака, ёсьць наступныя: 1) адпаведнае кармленьне, а разам з гэтым 2) належны дагляд і 3) добрае даеньне.

1) Аб кармленьні мы болей-меней гаварылі раней. Скажам тут толькі, што дойная жывёла павінна мець патрэбную колькасьць кармоў багатых на бялок, якімі ёсьць вотрубы, макуха, канюшына і інш, а так сама ёй не павінна бракаваць кармоў сачыстых, як зялёны корм або буракі, морква, рэпа і інш.

Усе вышэй пададзеныя кармы належаць да т. зв. кармоў малакагонных. Пры гэтым мусімо дадаць, што, чым болей рознародных кармоў, тым лепей.

2) Дагляд таксама мае вялічэзны ўплыў на дойнасьць. Сьцьверджана, што сьветлае, цёплае і належна праветрыванае памешканьне дадатня ўплывае на дойнасьць жывёлы.

Таксама ўстаноўлена, што чышчэньне кароў значна павышае дойнасьць. Адпаведнае карменьне і дагляд дадуць добрыя вынікі, калі разам з гэтым будзе і добрае даеньне. Можна і найлепшую карову даастатку сапсаваць кепскім даеньнем. Пры добрым даеньні ня толькі павышаюцца ўдоі да належнай вышыні, але паляпшаецца самая якасьць малака. Пры даеньні трэба трымацца наступных правілаў: а) правідловасьці даеньня, б) дакладнага выдойваньня і 2) захаваньня найпаўнейшай чыстаты.

а) Правідловым называецца даеньне такое, пры каторым карова не адчувае ніякага болю, а наадварот—прыемнасьць. Далей трэба дбаць аб пунктуальнасьці даеньня. Гэта знача, што даіць трэба кожны дзень у тую самую гадзіну. Апрача таго, правідловасьць даеньня вымагае, каб паміж чарговымі даеньнямі былі аднолькавыя адступы часу.

б) Другім важным пунктам добрага даеньня ёсьць дакладнае выдойваньне. Пры недакладным выдойваньні ў найдрабнейшых каналцах вымені застаецца малако, чым стрымліваецца вытварэньне новага малака, малочныя жалёзы аслабяваюць у сваёй чыннасьці, драбнейшыя каналцы памалу пачынаюць зарастаць і, зразумела, дойнасьць усьцяж зьмяншаецца. Калі даеньне скончана, трэба вымя дакладна змасаваць і здаіць малако да астатняе кроплі. Дойная карова павінна быць заўсёды дакладна выдаена, выняткам можа быць толькі першае здойваньне зараз-жа па нараджэньні цяляці, калі дакладнае выдаеньне магло-б быць небясьпечным. Нагат пры наўмысным запушчаньні каровы трэба яе дакладна выдойваць, а да запушчэньня карову змушаць, пастулова зьмяншаючы лік даеньняў на пару.

в) Астатнім немалаважным мамэнтам пры даеньні ёсьць чыстата. Чыстату пры даеньні трэба захоўваць дзеля таго, што занячышчанае малако ня толькі шкадлівае для здароўя, асабліва дзяцей, але з такога малака ня можа быць добрага ні масла, ні сыру.

**З. К.**

## Каініт.

Каініт ёсьць паташовы штучны гной, у якім знаходзіцца каля 11-12½% поташу. Паташовыя гнаі ўжываюцца там, дзе глеба на гэты складнік бедная. Да такіх глебаў належаць глебы тарфяністыя, падзолістыя, пяскі і супяскі. Апошніх глебаў у нас шмат, а дзеля таго паташовыя гнаі павінны мець у нас шырокае тасаваньне. Асабліва вялікі ўплыў робяць паташовыя гнаі на сенажаці. Таксама часта вельмі ўдзячнымі за паташовы гной бываюць асыпныя, збажовыя і бабовыя расьліны.

З паташовых гнаёў найболей цікавым ёсьць каініт. Практыкаю ўстаноўлена, што ён часта робіць куды большы ўплыў на ўраджай, чым такая-ж колькасьць чыстага поташу. Згэтуль пайшла думка, што на расьліннасьць дзеець каініт ня толькі тэй колькасьцяй поташу, якая ў ім знаходзіцца, але і пабочнымі солямі. Досьледы праф. М. Гурскага і інш. гэтую думку пацьвярдзілі і даказалі асабліва дадатні ўплыў на расьліннасьць соляў натру (каменная соль) і магнія. Дзеля гэтага радзяць даваць у глебу паташовы гной у пастаці каініту познай восеньню або раньняю вясною. Каініту трэба даваць у глебу значна болей, чым канцэнтраванае паташовае солі, а дзеля таго часта вельмі дорага абходзіцца дастаўка яго. У такіх выпадках карысна купляць не высокапрацэнтавую паташовую соль, а толькі 20-30 працэнтавую, бо ў апошняй яшчэ ёсьць пабочныя солі, якія так дадатна ўплываюць на ўраджай.

**С. А.**

# З Беларускага жыцьця.

## У Вільні.

**Коопэратыўны сход.** У нядзелю, 25 лютага, у 15 гадз. у салі кооп. саюзу „Сполэм" (Росса 3) адбудзецца агульны сход сяброў беларускага коопэратыву „Спаўдзельца" ў Вільні. На парадку дня стаіць пытаньне аб далейшым лёсе гэтае заслужонае беларускае коопэратыўнае пляцоўкі, якая — з прычыны слабога зацікаўленьня з боку віленскіх беларусаў—апынулася ў цяжкім палажэньні. Толькі супольным высілкам усяго беларускага грамадзянства можна было-б ўратаваць коопэратыў. Ці зробіць гэта нашае грамадзянства?

**З Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы.** У Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віленскім Унівэрсытэце ў апошнія дзьве нядзелі чыталіся цікаўныя лекцыі.

11-га лютага чытаў гр. А. Луцкевіч аб рэвалюцыйным часопісе „Гоман", які выдавалі ў 1884 годзе беларусы—народавольцы. Лектар заявіў, што сваей лекцыяй мае на мэце адзначыць пяцьдзесяцілетні юбілей часопісу, які прыпадае на пачатак гэтага году. Абрысаваўшы гісторыю разьвіцьця беларускае палітычнае мысьлі ў XIX ст., лектар пасьвяціў асаблівую ўвагу асобе Ігната Грыневіцкага, заклачыка беларускае фракцыі ў Партыі Народнае Волі, які, як ведама, сваей бомбай забіў цара Александра II. З далейшых слоў лектара выявілася, што ў сувязі з народавольчым рухам ранейшая орыентацыя беларускае радыкальнае інтэлігенцыі на Польшчу і лучэньне беларускае справы з адбудовай Польскае рэспублікі (Каліноўскі) пасьля 1863 году зьмянілася ў новую орыентацыю—на рэвалюцыйную Расею, у каторай—у выпадку перамогі рэвалюцыйнага руху—Беларусь павінна была атрымаць самастойнасьць у фэдэрацыі з Расеяй. Гэту но-

вую орыентацыю і праводзіў „Гоман". Закончылася лекцыя паказам нязвычайна рэдкага экзэмпляру „Гоману" (№ 2 з 15 лістапада 1884), які перахоўвуецца ў Беларускім Музэі ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні.

Перад пачаткам лекцыі старшыня Т-ва гр. Хв. Ільяшэвіч прывітаў лектара з яго-ным уласным пяцьдзесяцілецьцем, якое зыйшлося з юбілеем „Гоману".

18-га лютага адбылася лекцыя грам. М. Пецюкевіча, які даў вельмі цікаўны абраз стану беларускае навуковае працы ў галіне этнаграфіі ў БССР. Праца гэтая вялася там за апошнія дзесяць гадоў вельмі шырака і дала багатыя вынікі.

**„Беларускі лемантар з 1862 году".** У нядзелю 25. II. Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы ладзіць чарговую лекцыю гр. Хв. Ільяшэвіча на тэму: „Беларускі лемантар з 1862 году". Лекцыя адбудзецца ў VI салі Унівэрсытэту (галоўны гмах, уваход з сьв. Янскае вул.) у 5 гадз. вечара. Уваход вольны.

**У Беларускім Праф. Вучыцельскім Саюзе.** З прычыны адмовы гр. А. Луцкевіча ад становішча старшыні,— урад выбраў на ягонае мейсца д-ра Б. Грабінскага.

**„Вечар бальлад".** У суботу, 17 лютага, у салі Беларускае Філіі Дзярж. Гімназіі ім. Ю. Славацкага ў Вільні адбыўся вучнёўскі вечар. Быў пастаўлены вучнямі цэлы рад уцэнізаваных бальляд у беларускай і польскай мове.

**„Шлях Моладзі"** ладзіць у нядзелю, 25 лютага, урачысты абход пяцілецьця свайго існаваньня.

## На правінцыі.

**Голад пашыраецца.** Паводле апублікаваных у часопісе „Кур. Віл." вестак, голад абыймае ўсё шырэйшыя прасторы Віленскага ваяводзтва. У Дзісьненскім, Браслаўскім, Маладэчанскім і Валожынскім паветах няма ўжо ў сялян ані хлеба, ані бульбы, ані круп, ня кажучы аб даўно нябачанай закрасе... Ад голаду ў людзей робіцца галавакружэньне, здараюцца ўсё часьцей выпадкі, што людзі ад голаду пухнуць,—а адначасна пачынаюць што-раз больш пашырацца заразныя хваробы. Аб усім гэтым паведамлены ўлады, якія абяцуюць даць галадаючым дапамогу ежай і лекамі.—Каб-жа яна прыйшла хутчэй!

**Водгукі гмінных выбараў.** (Вішнеўская гміна, Вялейск. пав.). Пасьля таго, як беларуская ліста кандыдатаў была беспадстаўна ўняважнена, дык выбары скончыліся перамогай панскае лісты. Скарга да вышэйшых уладаў на незаконны паступак старшыні камісіі дагэтуль астаецца бяз выніку,—за тое-ж мяйсцовая паліцыя пачала „караць" таго, хто пісаў сялянам кандыдацкую лісту і падаваў яе. Проці гр. Ю. Мурашкі, старога беларускага дзеяча, ня гледзячы на ўсім ведамую лёяльнасьць яго да дзяржавы, распачалі „дохадзэньне", што нібы то ён „фальшаваў" подпісы на лісьце. Паліцыя цягае сялян на допросы і гэтак іх тэрорызуе за тое, што хацелі скарыстаць на выбарах з прыналежачага ім па закону права. Аб гэтай акцыі паліцыі паведамлены ваяводзкія ўлады у Вільні.

## Б. С. С. Р.

**„Вычышчаныя" камуністы беларусы.** На XV-м зьезьдзе компартыі ў Менску прамаўляў нейкі „таварыш" Шаранговіч, каторы паўтарыў усю тую агідную ілжу аб арыштаваных беларускіх дзеячох, каторая была надрукавана ў ведамай ужо камуністычнай брашуры. У канцы прамоўца назваў цэлы рад імёнаў беларускіх камуністаў, якія ў апошнім часе выкінены з партыі за „нацдэмаўшчыну": Бондар, Капаевіч, Акулік, Чарняўскі і інш. Дзеля таго, што імёны гэтыя ў нас зусім няведамыя, трэба думаць, што ўсё гэта—камуністычная моладзь, якая крэпка стаіць за сваю беларускасьць і ня хоча абмаскоўлівацца...

**Новыя арышты.** Як падае „Кур. Віл." з 11-га лютага, лічба арыштаваных у БССР ад 1 лістапада да 15 студня беларускіх дзеячоў—прафэсароў, інжынераў, тэхнікаў, пісьменьнікаў і інш., — дасягае 300 душ (— у 1930 годзе было каля 200 ахвяр). Яны пасаджаны ў вастрогах Менску, Барысава, Полацку, Воршы. У Менску ў вастрозе закончыў жыцьцё самагубствам інж. Мікераў, а ў Полацку б. праф. Уладзімер Чарновіч,

## У Латвіі.

**Беларуская сэкцыя ў Латвійскай С.-Д. Партыі.** Беларуская Сэкцыя ў складзе Латвійскае Соцыял-Дэмакратычнае Партыі ўжо зацьверджана Цэнтральным Камітэтам і ў найбліжэйшем часе распачынае сваю працу.

**Дзеля чаго гэта зроблена?** У апошнім нумары часопісу грам. Езавітава „Беларуская Школа ў Латвіі" зьмешчана перадавая стацьця, у якой аўтар, тэндэнцыйна замоўчываючы аб ведамым усім факце, што абвяшчэньне 25 сакавіка 1918 г. Незалежнасьці Беларусі Радай Рэспублікі ў Менску было зроблена па дамаганьню віленскае дэлегацыі з гр. гр. Ів. і Ант. Луцкевічамі на чале, — ілжыва прыпісвае гэтай жа дэлегацыі дамаганьне пасылкі кайзэру Вільгэльму прывітальнае тэлеграмы ад Рады Рэспублікі.

Ведама ўсім, што гэная самая тэлеграма была паслана з ініцыятывы тагачаснага старшыні беларускага ўраду гр. Варонкі — праз месяц ці два пасьля бытнасьці ў Менску ўспомненае віленскае дэлегацыі. Ведама й тое, што паступак гр. Варонкі выклікаў бурны пратэст як сярод менскіх грамадаўцаў (—на гэтым груньце Беларуская Сацыялістычная Грамада, да якое належаў Варонка, разваліласяі), так і сярод віленскіх дзеячоў з Луцкевічамі на чале, перад якімі Варонка апраўдываўся ў сваіх пісьмах.—Дык дзеля чаго гр. Езавітаў дапусьціў у сваім органе такое сфальшаваньне гістарычнае праўды?

Беларускае грамадзянства ў Латвіі глыбака абурана гэтым паступкам гр. Езавітава і тлумачыць яго жаданьнем „абяліць“ перад Саветамі свайго былага таварыша Варонку. Паступак гэты нашыя „латвійцы“ стаўляюць у сувязь з фактам, што на адбытым у Менску ХV-ым Зьезьдзе Компартыі Беларусі адзін з прамоўцаў, Шаранговіч, прыпомніў тэкст тэлеграмы і падаў імёны падпісаўшых яе (Варонкі, Скірмунта, Аляксюка, Крычэўскага і інш.). Об'ектыўна-ж сфальшаваньне гістарычнага факту і перакіданьне адказнасьці за недарэчны палітычна крок гр. Варонкі на Луцкевічаў можа мець толькі адзін практычны вынік: даcьць Саветам падставу „таўчы“ ня толькі Луцкевіча, але і ўсіх арыштаваных у Менску беларусаў, якіх тамака крывадушна абвяшчаюць ідэйна зьвязанымі з Луцкевічам...

Дзеля чаго грам. Езавітаў, стары беларускі працаўнік, дапусьціў падобную рэч у сваім часопісе? Мы будзем чакаць ад яго выясьненьня гэтае запраўды-ж няпрыгожае справы ў наступным нумары „Бел. Школы ў Латвіі“.

## У Літве.

**Беларускія лекцыі праз радыё.** 18 і 19-га лютага ў Коўне праз радыё прачытаў дзьве лекцыі аб беларускай справе былы дырэктар Дзяржаўнае Беларускае Гімназіі ў Дзьвінску грам. С. Сахараў.

## У Чэхаславаччыне.

**Беларусы і ўкраінцы.** Замежная прэса асабліва адзначае ўчасьце ў сёлетнім урачыстым абходзе ў Празе сьвята абвяшчэньня незалежнасьці Украіны (22 студня) прадстаўнікоў двух братніх народаў: Беларускага і Грузінскага.—Дый яно зусім зразумела: гэтыя тры народы—Беларускі, Грузінскі і Украінскі—у роўнай меры цярпяць шалёны ўціск ад Чырвонае Масквы, і якраз у апошніх часох жорсткія скорпіоны ізноў пасыпаліся ў Саветах і на беларусаў, і на ўкраінцаў. Супольнасьць няволі — найбольш крэпкая сувязь між паняволенымі народамі!

# Палітычная хроніка.

**Прыняцьце бюджэту ў Сойме.** На паседжаньні 14 лютага Сойм прыняў у трэцім чытаньні бюджэт у лічбах, усталеных бюджэтнай камісіяй, якая блізу не зьмяніла росьпісу даходаў і выдаткаў, апрацаванага ў урадавым праекце. Галоўныя лічбы бюджэту мы далі ўжо ў папярэднім нумары „Р. Кр.“.

У дыскусіі апазыцыя падчырківала залішне „фіскальны характар бюджэту“, які „ня лічыцца з агульным страшэнным зьбядненьнем насяленьня“. Калі—некалькі гадоў назад—агульны „нацыянальны даход“ Польшчы аблічаўся на 19 мільярдаў, дык цяпер апазыцыйны эканаміст аблічае яе „грамадзкі даход“ ня вышэй, як на 8,5 мільярдаў, ці менш як напалову. Гэта значыць — сярэднім лікам 270 зл. на галаву аднаго жыхара Польшчы ў год. З гэтай сумы кругла 40%, ці блізка палову, аддае ён на рознага роду падаткі. Гэтыя лічбы ясна паказваюць, які фатальна негаспадарчы характар мае сучасны фіскальны лад у Польшчы. Але гэта — ў значнай меры—вынік агульнага гаспадарчага і палітычнага крызысу ў Эўропе.

На крытыку апазыцыі адказываў міністар фінансаў, даводзячы, што ўрад зрабіў усё, што было ў яго сілах у такіх цяжкіх варунках. Урад вырашыў галоўныя задачы фінансавага кіраўніцтва краю: утрымаў раўнавагу ў бюджэце, утрымаў сталасьць валюты, утрымаў апарат крэдыту, вядучы адначасна цяжкую барацьбу з безрабоцьцем.

Бюджэт прыняты галасамі толькі ўрадавае большасьці Сойму. Усе апазыцыйныя клюбы, у тым ліку і жыдоўскі, галасавалі проці бюджэту.

Згодна з Канстытуцыяй, 15 лютага прыняты Соймам бюджэт перасланы ў Сэнат.

**Прамова міністра Перацкага.** З вялікай прамовы міністра ўнутр. спраў Перацкага адзначаем ніжэй найбольш важныя і цікаўныя для нас мейсцы.

П. міністар сказаў, што ўрад у Польшчы, які пабудаваны галоўным чынам на маральным аўтарытэце маршалка Пілсудзкага, ня мае зусім патрэбы „ставіць аўтарытэт улады ў формах радыкальных, зьвязаных з прымусам або гвалтам. Наадварот—гэты маральны аўтарытэт марш. Пілсудзкага, які стаіць за ўрадам, дае ўраду магчымасьць шуканьня шляхоў і спозабаў сужыцьця і супрацоўніцтва (з усімі народамі Польшчы) — бяз гвалту над іх нацыянальным характарам дый з захаваньнем цэннага зьместу і даробку дэмакратычнае ідэі ў Польшчы“.

Міністар рашуча адкідае ўсялякія „рэпрэсіі, калі яны тасаваны па-за выпадкамі выразнага пагвалчэньня праўных падставаў сужыцьця і бясьпечнасьці ўсіх грамадзян“. „У гэтых рамах права хапае мейсца,—казаў міністар, — ня толькі для разьвіцьця грамадзкага жыцьця, але і для палітычнае барацьбы“. Урэшце п. міністар заявіў, што ніякія акты тэрору і гвалту, індывідуальнага ці масовага, з якіх-б матываў яны ні выходзілі дый проці каго-б яны ні былі скіраваны, ня могуць лічыць на лагоднасьць з боку ўраду, а наадварот — спаткаюцца з належнай карай. Ня будуць так сама толераваны ніякія фізычныя праявы нацыянальнае ці расавае барацьбы“.

Трэба толькі пажадаць, каб гэтыя запраўды ж залатыя словы п. міністра ўрэшце знайшлі сабе належны послух у ўсіх падуладных яму чыньнікаў у нашым шматпакутным краі. Бо-ж ці-ж можна схаваць тое, што ёсьць у нас навет цэлыя ваяводзтвы, як прыкладам Палескае, дзе мясцовая адміністрацыя літэральна на кожным кроку пярэчыць—у адносінах да беларускага сялянства

— шляхотным, але, відаць, бясcільным тутака дырэктывам п. міністра...

**Міністар Бэк у Маскве.** 12 лютага міністар замежных спраў Польшчы выехаў у Маскву. Фармальна міністар як быццам рэвізытаваў савецкага міністра Чычэрына, які затрымаўся ў Варшаве—праездам у Бэрлін—у верасьні 1925 г. Палітычны зьмест і мэты візыты, зразумела-ж, далёка выходзяць за рамкі гэтай дыплёматычнай ветлівасьці. Як тлумачыць польская прэса, мэтай візыты ёсьць наагул далейшае „зацясьненьне прыязьні" паміж Польшчай і Саветамі ды жаданьне рассеяць усялякія сумліві, якія маглі спарадзіцца ў Маскве з прычыны неспадзяванага падпісаньня польска-нямецкага пакту аб узаемным ненападаньні 26 студня.

Мін. Бэк быў у Маскве тры дні. Прымаў яго савецкі ўрад надзвычайна сэрдэчна. На ўрачыстым абедзе ў Літвінава ў чэсьць мін. Бэка абодва аратары падчырківалі вялікае значэньне польска-савецкай прыязьні для замацаваньня міру ў-ва ўсёй Эўропе.

Француская прэса піша, быццам дасьпявае думка аб заключэньні палітычна-ваеннага паразуменьня, ці саюзу паміж Польшчай, СССР і Францыяй. Ясна, што такі саюз быў бы скіраваны проці гітлераўскае Нямеччыны, якая, ня гледзячы на ўсе мірныя заявы Гітлера, зьяўляецца галоўным вогнішчам ваеннага пажару ў больш-менш блізкай будучыні.

З іншых бакоў ідуць чуткі, быццам савецка-польская прыязьнь мае на мэце забясьпечыць Саветы ад нападу на Захадзе ў выпадку спадзяванае вайны з Японіяй на Далёкім Усходзе.

—

**Вайна паміж Японіяй і СССР ізноў—на валасну!** Уся сусьветная прэса пільна сочыць за ўсьцяж наплываючымі з Далёкага Усходу ваеннымі хмарамі. З абодвух бакоў манджурскае граніцы ўсьцяж зьбіраюцца вялізарныя масы войска, азброенага па апошняму слову ваеннае тэхнікі. Савецкія і японскія генаралы наперабой вінававаціць узаёмна адзін аднаго ў падрыхтаваньні ваеннага нападу на суседа. Калі б запраўды, як пішуць некаторыя оптымісты, савецкія збраеньні і дыплёматычныя пасьпехі (паразуменьне з Амэрыкай і інш.) падзеялі на токійскія колы, што пхаюць Японію да вайны, тады Японія ня слала-б на савецка-манджурскую граніцу новыя і новыя сілы, каб перавысіць сілы Саветаў.

**Хаўтуры разбраенчае канфэрэнцыі.** Сабраўшыся на паседжаньні ў Лёндане 12 лютага прэзыдыум канфэрэнцыі ў справе разбраеньня пастанавіў, што „склікаиьне ў бліжэйшы час канфэрэнцыі было-б бязмэтным". Прэзыдыум пастанавіў таму сабрацца ізноў 10 красавіка, дый тады будзе, можа, лепш відаць, ці... варта наагул назначаць тэрмін склікаиьня канфэрэнцыі ў такой... неактуальнай справе, як справа разбраеньня.

У палітычных колах усіх эўрапэйскіх сталіц такая „дэлікатная" пастанова прэзыдыуму разглядаецца, як — „ціхія хаўтуры канфэрэнцыі".

**Аднаднеўная агульная забастоўка ў Францыі.** У-ва ўсёй Францыі адбылася агульная аднаднеўная забастоўка ўсяе арміі работнікаў і дзяржаўных працаўнікоў. Забастоўка мела мэтай—ня толькі выразіць пратэст усяе працоўнае Францыі проці ганебных грашовых афэраў, якія падрываюць дзяржаўны апарат краю, але—што падчырківалася яшчэ сільней: прадэманстраваць сілы працоўнай арміі, якая будзе бараніць да канца свабоду, роўнасьць і ўвесь дэмакратычны лад у Францыі проці ўсялякіх спробаў фашызму і дыктатуры зьмяніць гэты лад.

Як ведама, ў апошні час і ў Францыі, як і шмат дзе ў іншых краёх, дзе йшчэ захаваліся дэмакратычныя парадкі, усё галасьней гаворыцца аб неабходнасьці для Францыі пайсьці шляхам іншых дзяржаў, каб канкураваць з імі ў „спраўнасьці заканадаўства і выканаўчае ўлады"... Асабліва ў сувязі з афэрай Ставіскага і кампрамітацыяй цэлага раду партыйных дзеячоў, падчас пратэстаў народных масаў проці гэтых афэрыстаў, правадыры францускае крайняе правіцы кідалі ў усхваляваны натоўп народу і гэтыя модныя лёзунгі — скасаваньня парлямантарызму і ратаваньня Францыі шляхам дыктатуры... На гэта ўсё і дала адказ агульная забастоўка. Адказ выйшаў вельмі моцны.

**Сьмерць бэльгійскага караля.** Бэльгійскі кароль Альбэрт, гуляючы ў горах, зваліўся ў прорву і забіўся на сьмерць.

## Паштовая скрынка.

**Да ўсіх кіраўнікоў бібліятэк-чытальняў ТБА.:** Сэкрэтар'ят ТБА даводзіць гэтым да ведама, што ў найбліжэйшых днях вышлe ўсім бібліятэкам камплекты кніжак „Бібліятэка Школьніка" для дзяцей выданьня Т-ва.

Грам. **Лявону Канапельку**, п. Вішнеў к. Сьвіра. Пісьмо Вашае атрымалі. Вашыя ўвагі зусім слушныя. Пры найбліжэйшым камплетаваньні новых бібліятэчак Т-ва абыйме тых аўтараў, якіх Вы паказалі. Як толькі кніжкі будуць на складзе Т-ва, зараз-жа Вам вышлюцца.

Грам. **Язэп Жэрка**, п. Гарадзея, в. Макаты. Газэта Вам высылаецца. Цэшыць нас, што „Р. К." Вам падабаецца і мае пасьпех у Вашай ваколіцы.

Грам. **Міралюбаву Андрэю**, п. Сьвіслач, в. В. Міхалкі, **Ракевічу Васілю**, в. В.-Угрынь, **Юхноўскаму Аляксандру**, п. Лужкі, **Шастову Андрэю**, п. Куранец, в. Рабунь, **Кацнель Янка**, п. Кабыльнік, в. Стахоўцы. — Падпіскі на газэту „Родны Край" атрымалі. Беларускія адрыўныя календары Вам высланы.

## Пашырайце нашу газэту!

# Літэратурны куток.

М. Машара.

## ВЯСЕЛЬЛЕ.

І.

Ой, вясельле, ты вясельліца,
Ты вясельліца вясковае!
Закружылась, як мяцеліца,
Як мяцеліца зімовая.

Дзень прыгожы,
Дзень зімовы, —
Мокне сонца на сьнягу;
А у вёсцы
Рух вясёлы, —
Табуняцца у таўпу.

Пад'яжджаюць вось і сваты,
Усе прыбраныя
У карункі маравяныя.
Усе выскачылі з хаты
На спатканьнейка
Ды сваточкаў прывітаньнейка.

Заігралі маршу,
Запяялі песьні
І вядуць у хату,
Запрашаюць сесьці:

— Ой, сватынькі і сваты,
— Ды зьнімайце-ж халаты!
— Мы вам чарку паднясем,
— Не адну песеньку сьпяем
— Вам — вясёлую.

— Вашы конікі ўдаленькія
— Усе распрэжаны
— І дагледжаны.
— Вашы саначкі чарненькія
— Усе прыбраныя,
— Захаваныя.

Ой, вясельле, ты вясельліца,
Ты вясельліца вясёлае!
Закружылась, як мяцеліца,
Мяцеліца зімовая.

Прыбіраюць маладую,
Пасадзіўшы на дзяжу,
І касу яе густую
Распусьцілі па плячу.

Тры падружкі маладыя
Чэшуць косы залатыя, —
Пацяшаючы,
Прыпяваючы:

— Ня кукуй, шэра зязюля,
— Ды ў зялёным лісточку, —
— Ня плач, наша падружка,
— Ды ў белым вяночку. —

Вэлён белы і вяночак
З срыбна-белых пялюсточкаў
Надзяваюць на галоўку
І выводзяць із каморкі

Па шаўковым дывану
Маладую-маладу
Тры падружачкі
Ды за падручачкі.

Ах, ты, скрыпка мая,
Ты сасновая,
Ах, зайграй-жа ты мне
Штось вясёлае!
Ах, цымбалы мае
Тонкаструнныя,
Ды зайграйце-ж вы мне
Штось разгульнае!

Гэй, музыка, грай!
Гэй, музыка, рэж!...

Маладую за сталом
Ды падружачкі
Садзяць, садзяць пад вакном—
На падушачцы.

Пасадзілі на пасад, —
Не вярнуць ужо назад...

Самі селі з боку тога
І чакаюць маладога.

Расступецеся, сваты,—
Ідзе з дружкам малады:

Йстужка белая
Разьвяваецца,
Вочы сьмелыя
Усьміхаюцца!

Гэй, музыка, грай!...
Гэй, музыка рэж!...

(Даканчэньне будзе).

## Наша пошта.

*Вёска Крывічы. Сябра Стабурак.* Вы пішаце наступна: «Я—адзін вясковы жыхар, сын мільённага народу (як выражаюцца некаторыя беларускія поэты), змалку прыгарнуты дзікай прыродай, а натурай—адкінуты далёка ад людзей, зьвяртаюся да Вас». Далей Вы пішаце, што вы — ігнарант традыцыі ані ня ўмееце паставіць нават коскі на сваім мейсцы. Вы ня знаеце цяпер: ці пісаць, ці ня пісаць. Просіце зрабіць увагі.

Усё, аб чым Вы пішаце, гэта такія рэчы, над якімі ня трэба вельмі распачаць. Усяго можна навучыцца. Толькі не аддаляйцеся ад людзей—у сьвет выключна асабісты, а, наадварот, чым больш будзьце з людзьмі, прыслухоўвайцеся да іх жыцьця, падглядайце гэтае жыцьцё і самі займайце нейкае „мейсца пад сонцам“. Пісаць вам радзім, але пісаць і думаць, і чуць, і перажываць. У Вас шмат шчырасьці, а гэта — галоўнае ў творчасьці. Кіньце звычай—нішчыць напісанае. Часткі з Вашых твораў мы надрукуем і зробім пэўныя ўвагі. Цяпер наагул ажывіўся літэратурны рух у Зах. Беларусі. Шагайце з ім у ногу і ідзеце ўсьцяж наперад. Наперадзе—агні!

Рэдактар: М. СІНЯУСКІ.—Выдавец: ТБА. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22